Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная тыднёвая часопісь.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Ліпоўка 18.

ПРЫЙМО ІНТЭРЭСАНТАЎ ад 10 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год – 6 зл., за паўгоду – 3 зл., за 3 мес. – 2 зл., за 1 мес. – 50 гр.

Год I. Вільня 30 Кастрычніка 1931 г. № 22

## АБ Т. ЗВ. „ПОЛЁНОФІЛЬСТВЕ“ І БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІХ АДНОСІНАХ.

У апошнім нумары нашае часопісі мы зьмясцілі пісьмо ведамага павадыра беларускага адраджэнскага руху, грам. Антона Луцкевіча, у якім ён пратэстуе проці прыпісваньня яму агентствам ВАПД нябылых яго выступленьняў на карысьць т. зв. «полёнофільства».

З гэтага пісьма некатарыя хочуць рабіць вывады, што быццам выступленьне грам. Луцкевіча зьяўляецца доказам «антіпаньствовасьці» як яго асабіста, так і таго беларускага грамадзянства, з якім ён зьвязаны ідэолёгічна.

Каб ня даць розным «фаховым бѣлоруссам» грунту дзеля інтрыгаваньня перад польскім грамадзянствам і польскімі ўладамі проці беларусаў наагул, мусім тут яшчэ лішні раз паставіць кропку над »і« у справе так-званага „полёнофільства“ і нашых адносінаў да Польшчы.

Слова „полёнофільства“ у нас — дзякуючы вельмі няўдалай палітыцы дамаёвых польскіх урадаў — сталася нечым абсолютна няпрыстойным. Пад „полёнофільствам“ у нас разумеецца нацыянальная здрада, прадажнасьць і вырачэньне беларускіх нацыянальных ідэалаў. На такі шлях узыходзілі і ўзыходзяць толькі такія адзінкі, як: п.п. Аляксюк, Валэйша, Кабычкін, з каторых першыя два сядзяць у вастрозе за самую звычайную ўгалоўшчыну, а Кабычкін — за шпіонаж на карысьць аднае з суседніх з Польшчай дзяржаваў. Ня вышэй за іх з грамадзкага пункту гледжаньня стаяць і іх наступнікі: п. п. Павлюкевіч, Вярнікоўскі, Гурын і Акіньчыц. А прыклад з названым ужо Кабычкіным найбольш яскрава сьведчыць аб тым, што нават і для Польшчы гэтыя паны — ня вельмі пэўныя, бо-ж працуюць выключна толькі дзеля польскіх грошы... На гэтай падставе назваць некага з беларусаў „полёнофілам“ — гэта ўсё роўна, што паставіць яго ў адзін рад з усіміназванымі панамі, — гэта роўназначна з самай цяжкай абразай. І не дарма камуністы „лаюць“ гэтым словам прадстаўнікоў незалежнага радыкальнага беларускага кірунку, так небясьпечнага для камуністычных уплываў на масы.

З гэтага ясна, што толькі несьвядомасьць, або злая воля можа рабіць гэткі вывад: хто адмяжоўваецца ад такога „полёнофільства“ (інакш Паўлюкевічаўшчыны, Аляксюкоўшчыны і г. п.) — той *„полёнофоб“ і антіпаньствовец*. І падобны закід, кіданы нам „фаховымі полёнофіламі“, *мы мусім рашуча адкінуць*.

Наша праграма — праграма позытыўнай творчай культурна-нацыянальнай працы, працы над узгадаваньнем падрастаючае беларускае моладзі, будучае беларускае інтэлігенцыі, сьвядомае ня толькі сваіх правоў, але ня ў меншай меры і тых абавязкаў, якія накладае на кожнага грамадзяніна Дзяржава.

На гэтым груньце мы шукалі і шукаем паразуменьня і супрацоўніцтва з тэй часткай польскага грамадзянства, якая шчыра і чэсна хацела-б разьвязаць беларускае пытаньне ў рамах Польскае Рэспублікі.

І калі мы, выступаючы ў абароне інтарэсаў беларускага народу, часта паддаём даволі вострай крытыцы тую ці іншую дзеяльнасьць Ураду, то робім гэта таму, што, паводле нашага шчырага разуменьня, у гэтым ляжыць ня толькі інтэрас беларускага народу, а ня менш — інтэрас і ўсяе Дзяржавы, грамадзянамі каторае зьяўляюцца беларусы.

Мы добра разумеем, што лёяльныя і позытыўныя адносіны Дзяржавы да беларусаў вымагаюць ад апошніх такіхжа лёяльных і позытыўных адносін да Дзяржавы.

І хоць у сучасны мамэнт да Польскага Ураду мы маем шмат засьцярогаў у справе выкананьня ім і фармальных і моральных забавязаньняў адносна беларусаў, аднак пераконаны, што мусіць настаць час, калі польскі Ўрад пачне рэалізаваць зусім слушныя дамаганьні беларусаў і гэтым паможа стварыцца такім варункам, калі ня будзе ніякае падставы для „антіпаньствовых“ настрояў на'т у тых, якія, дзякуючы сучасным ненармальным варункам, падпадаюць пад уплыў „апякуноў“ з Усходу.

Мы пераконаны, што даўжэйшы пэрыад сужыцьця ў атмосфэры ўзаемнае пашаны і даверыя давядзе да ўзгадаваньня ў беларускіх масах *шчырае* сымпатыі да польскага народу — не як да „пануючае нацыі“, а як да раўнапраўнага сябры ў супольнай дэмакратычнай дзяржаве, у якой нас злучыў ход гістарычных падзеяў.

Іншага шляху няма.

## Дваццаціпяцілецьце беларускае прэсы.

14-га верасьня мінула 25 гадоў ад выхаду ў сьвет першае беларускае газэты — беларускае і па духу і па мове — „Нашае Долі“.

Неяк ціха, няўзнак мінулі гэтыя ўгодкі ў нашым разьбітым звонку і знутра грамадзянстве.

А тым часам выхад у сьвет першае беларускае часопісі, нарадзіны беларускае прэсы — гэта-ж факт у культурна-нацыянальным жыцьці беларусаў нязвычайна важны. Гэта-ж довад, што беларускі народ пачаў жыць самастойным духовым жыцьцём, што здолеў стварыць уласную кузьню грамадзка-палітычнае мысьлі, што масы беларускія ўжо 25 гадоў таму назад пачалі адчуваць патрэбу ў друкаваным слове беларускім.

„Наша Доля“ распачала новую эпоху ў жыцьці беларусаў, — эпоху, атрымаўшую імя „нашаніўскае“ ад імя наступніцы „Нашае Долі“ — „Нашае Нівы“. І можам сьмела сказаць, што Беларуская Соцыялістычная Грамада, якая распачала выдаваньне першае беларускае часопісі, не прадбачыла тых вынікаў, якія дало нараджэньне невялічкае беларускае газэткі ў цесным, напоўцёмным рэдакцыйным пакоіку пры Віленскай вуліцы ў Вільні.

Дзесяткі газэт (у тым ліку штодзенныя), усялякага роду і віду журналаў — палітычных, літэратурных, навуковых, практычнага значэньня — вось багаты прыплод „Нашае Долі“ і „Нашае Нівы“ за чверць сталецьця.

А колькі вырасла ў сям'і „нашаніўцаў“ выдатных літэратурных талентаў (Купала, Колас, Багдановіч, Бядуля, Гарэцкі, Гарун, Цішка Гартны, Буйлянка і г. д.), колькі выпрацавалася публіцыстаў, літэратурных крытыкаў, усялякага роду спэцыялістаў...

І як гэта ні сумна — шмат хто з гэтых няўдзячных дзяцей ня толькі ня ўспомніць цяпер добрым словам сваей маткі-ўзгадавальніцы, але нават адважаецца падняць на яе руку, абліваючы на страніцах савецкае прэсы гразёю і сьвятыя ідэалы беларускіх адраджэнжацў, і — тых людзей, што жыцьцё сваё аддалі беларускай справе, працуючы над стварэньнем і разьвіцьцём беларускае прэсы...

Зьявіліся на сцэну «новыя багі», і прозэліты новае веры са скуры лезуць, ганьбуючы свае даўныя сьвятыні...

Трудна ў такіх варунках гаварыць аб уладжаньні нейкага агульна-нацыянальнага беларускага сьвята — сьвята дваццаціпяцілецьця роднае прэсы. Трудна, зачыняючы вочы на сумную праўду, пеяць гімны радасьці, калі навакол пануе жудасны настрой...

І мы, сцьвярджаючы гэтыя сумныя факты, зьвяртаемся ў гэты юбілейны час да сумленьня нашага грамадзянства, блізу страціўшага непамыльны інстынкт грамадзка-нацыянальнага самазахаваньня, — з такім заклікам:

*„Пара ізноў падумаць аб стварэньні агульна-нацыянальнага рэпрэзэнтацыйнага органу беларускага, які выяўляў-бы ў сабе беларускую справу і беларускую працу ў цэласьці,* які паказваў-бы і беларускім масам, і ўсяму культурнаму сьвету жыцьцё нашага народу ва ўсіх частках нашае многапакутнае Бацькаўшчыны, адбіваў-бы духовыя запросы Беларускага Народу, разьвіваючы нацыянальную думку беларускага «Захаду» і бароцячы ад расьцярушваючага яе «ветру з паўночнага Ўсходу», бо наша думка мусіць працаваць ня толькі для сябе, але і для нашых братоў на Ўсходзе, якія стогнуць пад ярмом чырвонай аракчэеўшчыны“.

Гэта было-б, па нашаму пераконаньню, найлепшае адсьвяткаваньне чверцьвяковага юбілею беларускае прэсы.

## Агульная перапіс.

9 сьнежня, як ведама, мае адбыцца на ўсей тэрыторыі Польшчы перапісь насяленьня. Гэта — ужо другая перапіс у Польшчы. Першая адбылася 10 гадоў таму — у 1921 г. 30 верасьня. Але тады значная частка беларускіх абшараў, увходзіўшых ў т. зв. „Сярэднюю Літву“, ня была ахоплена перапісяй.

Перапісь мае вялізарнае значэньне, бо дасьць дакладны абраз унутранага складу і характару насяленьня дзяржавы: нацыянальнага, соцыяльнага, гаспадарчага, культурнага. Кожны грамадзянін Польшчы павінен будзе адказаць на цэлы рад пытаньняў — датычна полу, даты і мейсца нарадзінаў, цывільнага стану (адзінокі ці жанаты), веравызнаньня, ступені ўзгадаваньня і роднае мовы. Дакладна трэба будзе высьветліць кожнаму грамадзяніну свой фах, спосаб працы ды заробку. Трэба будзе паказаць і тую ўстанову, фабрыку, майстроўню, дзе працуеш. Апроч галоўнага фаху, трэба будзе паказаць, калі ёсьць, і пабочны фах ці дадатковы спосаб заробку. Усе асобы, якія жывуць пры галаве сям'і, павінны паказаць, які стасунак радства ці

(гл. на адвароце).

сваяцтва лучыць іх з гаспадаром дому. У перапісных блянках будзе графа (мейсца), у якой трэба будзе адзначыць, хто жыве стала на мейсцы спісу, а хто жыве тутака часова — прыехаў у гасьціну, ці на працу, — каб адрозьніць сталае насяленьне данай мясцовасьці ад наплывовага, часовага.

Апроч сьпісу насяленьня, мае побач ісьці перапісь нярухомасьцяў і будынкаў — на падставе дадзеных гаспадарамі ведамасьцяў.

Перапісь пачнецца ў 8 г. раніцы і скончыцца ў той-жа дзень.

Тыя „камісары“, якія будуць перапісываць насяленьне, павінны будуць зайсьці да кожнай хаты асабіста, каб ад кожнага гаспадара і сяброў яго сям'і і двара атрымаць асабістыя інфармацыі (ведамасьці) кожнага аб самім сабе. А таму кожны грамадзянін павінен зрабіць усё, каб чым мага аблягчыць ды прысьпешыць камісарам іх цяжкую ды сьпешную працу.

Трэба адзначыць, што гэтая перапісь будзе мець карацейшы сьпіс пытаньняў, як перапісь 1921 г. Цяпер ня будуць сьпісывацца сельскія гаспадаркі, напрыклад, і яшчэ інш.

Дакананьне правільнае перапісі — дзела нялёгкае. Тутака патрэбна ня толькі добрая тэхнічная арганізацыя перапісі, але і значная сьведамасьць і культурнасьць самога насяленьня. Бо-ж пасьпех перапісі залежыць ад самога грамадзянства, якое фактычна само ж і робіць перапісь. Без актыўнага ўчасьця, сумленнай і разумнай дапамогі з боку самога насяленьня ніякай правільнай перапісі зрабіць нельга: можна зрабіць толькі яе сфальшаваны «эрзац», як кажуць немцы. Таму ўсё насяленьне павінна ведаць дакладна, што такое перапісь, якія мэты яна мае, якое значэньне мае для самога-ж насяленьня. Актыўным учасьцем у перапісі насяленьне ня толькі дакажа сваю грамадзкую сьведамасьць і культурнасьць, але і дапільнуе, каб гэтая другая перапісь запраўды адпавядала праўдзе, а ня была сфальшавана, як была ў значнай меры сфальшавана ў палітычна-нацыянальных мэтах— першая перапісь у Польшчы.

Пры гэтым трэба памятаць усім беларусам, што сярод пытаньняў найвэжнейшым для іх зьяўляецца пытаньне аб роднай мове. Дык трэба ясна, выразна і рашуча заяўляць, што роднай, матчынай мовай кожнага беларуса зьяўляецца мова *беларуская*, а не якая іншая. Трэба-ж і нам, беларусам, ведаць дакладна, колькі нас ёсьць у Польшчы на нашых адвечных землях, якую колькасную сілу мы прадстаўляем у дзяржаве. Бо-ж гэта дасьць нам дадатковыя падставы дамагацца ад улады выкананьня нашых правоў, задаваленьня нашых патрэбаў — гаспадарчых, культурна-асьветных і інш. Дакладна зробленая пры нашым актыўным і пільным учасьці перапісь тым дакладней пакажа і польскім уладам, і ўсяму польскаму грамадзянству, і ўсяму сьвету, як шпарка расьце народная сіла беларусоў у Польшчы дый як страшэнна адстае ад гэтай шпаркасьці ўсё тое, што — з такой сумнай павольнасьцяй — робіцца для гаспадарчага і культурнага ўздыму гэтай сілы на вышэйшую ступень...

У заключэньне трэба высьветліць нашым чытачом яшчэ адзін важны пункт, які можа выклікаць у іх сумлівы ды стрымаць ад паказываньня ўсей праўды перапішчыкам.

Дык вось — трэба ведаць усім, што з усіх матэрыялаў — адказаў, лічбаў, фактаў перапісі маюць права карыстаць толькі выключна статыстычныя, навуковыя ўстановы ў Польшчы. Спэцыяльным законам, прынятым Соймам яшчэ перад першай перапісяй, рашуча забаронена — пад пагрозай цяжкай кары — усякім уладам адміністрацыйным ці скарбовым (падатковым) заглядаць у гэтыя матэрыялы перапісі, карыстацца з паданых там грамадзянамі дадзеных аб іх заробках — дзеля вызначэньня ім падаткаў і т. д. — Адносна гэтага кожны можа быць зусім спакойны і паказываць поўную праўду, не баючыся «падатковай» ці якой іншай адказнасьці. Тайна перапісі, як і тайна паштовай карэспандэнцыі (лістоў), загарантавана законам.

Дык памятайце, грамадзяне-беларусы, аб усім, што сказана вышэй, і рыхтуйцеся ўсе грамадой да актыўнага, сьведамага і пільнага ўчасьця ў перапісі. — Рыхтуйцеся самі, вучыце другіх таго, чаго даведаліся з газэты самі, каб у дзень перапісі — 9 сьнежня сёл. году — на запытаньне камісараў - перапішчыкаў на ўсіх нашых землях:

> А хто там ідзе, а хто там ідзе
> У ваграмністай такой грамадзе? —

згодным хорам адказываць на ўсім прасторы нашых зямель у Польшчы: — *Беларусы.*

# ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

## Польшча.

### Звычайная сэсія Сойму.

Распачаўшаяся 1-X праца парляманту ідзе шпаркім ходам. Нават, як жаліцца апазыцыя, — аж залішне шпаркім, — рызыкуючы, як заявіў адзін з лідэраў эндэцыі, ператварыць законадаўчы парлямант у „дадаткавы апарат выканаўчай улады, які пакорна зацьвярджае цалком усе праекты ўраду“. Гэты закід, нажаль, запраўды мае пэўную слушнасьць, довад чаго бачым у заніку цікавасьці да парляманцкай працы ў шырокіх розна-нацыянальных колах грамадзянстваПольшчы. Але вострыя выступленьні апазыцыі папхнулі ўрадавую большасьць на спробу нават далейшага абмежаньня яе голасу і ролі ў парляманьце. Прэзыдыум Сойму апрацаваў праект зьменаў у «наказе» (унутраны статут Сойму), які агранічывае далей час моваў і наагул дае яшчэ большую ўладу старшыні. Над праектам «наказу» узгарэлася барацьба, якая скончылася прыняцьцем соймавай большасьцяй гэтага самаабмежаньня пасольскіх правоў.

Вынікам працы Сойму зьявіўся цэлы рад прынятых законапраектаў ураду, якія маюць пераважна фінансава-ашчаднасьцёвы ды скарбовы характар. Бо-ж урад усьцяж стаіць перад страшэнна цяжкім, блізу безнадзейным заданьнем: захаваць раўнавагу бюджэту і знайсьці новыя крыніцы даходаў, каб запхнуць тыя падатковыя недаборы, якія ўсьцяж даюць паступленьні з ужо існуючых крыніцаў. Край — страшэнна зьбяднеў, няма з чаго плаціць падаткаў, а —ведама— «з пустога і Салямон не нальле»... Таму трэба прызнаць асабліва шкоднай тую ўсьцяж завастраючуюся барацьбу, якая ўсьцяж ідзе ў Сойме, замест згоднай працы над супольнай задачай — аздараўленьнем фінансава - гаспадарчага стану краю. За тое — чыста палітычны характар мае апрацаваны мін. справядлівасьці праект новага статуту для прафэсыянальных аб'яднаньняў адвакатаў, у якім і апазыцыя бачыць і самі адвакаты — абмежаньне незалежнасьці адвакатуры.

---

## Заграніцай.

### Прычыны крызісу і спробы ратаваньня.

Вялізарны гаспадарчы крызіс, зьменшыўшы на цэлую чверць абароты міжнароднага гандлю дый нарабіўшы звыш 20 міліёнаў безработных у сьвеце, ня толькі не даходзіць „да дна“, абапершыся аб якое, пачаўся-б паноўны гаспадарчы ўздым, але ўсьцяж паглыбляецца, пагражаючы запраўднай катастрофай.

Кіраўнікі гаспадарчага і палітычнага жыцьця „буржуазнага“ сьвету, зразумела, ня могуць стаць на становішчы камуністаў, якія „прапануюць сябе“... у „лекары хворага сьвету“, заклікаючы да замены буржуазнага ладу ў ім на „соцыялістычны“. Прыклад іхняй уласнай „здаровай гаспадаркі“ неяк ня вельмі заахвочвае да веры ў іх „мэдыцыну“.

Таму кіраўнікі сусьветнай гаспадаркі ўсьцяж высоўваюць розныя спосабы лячэньня крызісу ў межах капіталістычнага ладу.

Мінулы год даў ужо нам аж чатыры такія спробы розных мераў барацьбы з крызісам. Кароткі агляд іх дасьць нам добрае паняцьце аб прычынах і разьмерах самага крызісу.

Адна з галоўных прычынаў крызісу міжнародавага абмену (гандлю) — у нябывалым зьбядненьні вялізарных даваенных рынкаў збыту ўсялякіх прамысловых тавараў: Расеі, Кітаю, Індыі, ня кажучы ўжо аб бліжэйшых, як Польшча, Балканскія краіны і т. д.

Таму вялізарныя, нарыхтаваныя на шырокамасавую прадукцыю, прамысловыя дзяржавы, нарабіўшы цэлыя горы гэтых ляжачых бяз руху тавараў, змушаны былі „зьвярнуць“ прадукцыю і распусьціць значную частку сваіх „работніцкіх арміяў“.

Такім чынам — з аднаго боку, прамысловыя краіны перажываюць „крызіс багацьця“, ці „перапрадукцыі“; з другога боку, аграрныя краіны перажываюць „крызіс згаленьня“, ці недахопу найпатрабнейшых тавараў.

Здавалася-б — найлепшыя варункі для гандлёвага руху гэтых тавараў, калі-б... калі-б аграрныя краіны мелі грошы...

Такім чынам — ясна, што „крызіс абмену“ (гандлю) можа быць пераможаны толькі крэдытам, ці — пазыкай капіталаў, прадажай тавараў бедным краінам напавер.

Але вось тутака і выступаюць на сцэну так званыя „палітычныя чыньнікі крызісу“. Капітал баіцца ісьці шляхам крэдыту ў цэлы рад згалелых аграрных дзяржаваў таму, што... ня верыць у палітычную, а значыць і гаспадарчую трываласьць гэтых дзяржаваў, якія жывуць пад пагрозай вайны.

Ня будзем казаць аб Кітаі і Індыі, абмяжуемся толькі Эўропай. Кожнаму ясна, што ў Эўропе галоўным чыньнікам такой пагрозы міру, а значыць і страшаком для капіталу і крэдыту зьяўляецца саюз СССР з Нямеччынай. Асабліва б'е гэты саюз, скіраваны ў першую чаргу проці Польшчы, па замежнаму крэдыту гэтай апошняй. Але таксама церпіць і Румынія і рад іншых дзяржаваў, якія, калі атрымлівалі якія пазыкі, дык блізу толькі на збраеньні, але не на ўздым гаспадарча занепаўшага насяленьня.

---

## Хістаньні нацыянальнай палітыкі камуністычнай партыі ў Савецкай Беларусі.

У беларускай прэсе, якая выходзіць у Вільні, часта спатыкаюцца інфармацыі аб перасьледаваньні беларускіх т. зв. нацыянал - дэмакратаў і аб агульным змаганьні савецкіх уладаў Усходняй Беларусі з кожнай праявай беларускага патрыятызму. Усе аднак весткі аб перамене палітычнага курсу ў адносінах да Беларусаў за ўсходняй граніцай маюць характар сьцьвярджаньня фактаў перасьледаваньня, але, на жаль, мала ўнікаюць у асноўныя прычыны гэных сумных зьявішчаў. Дзякуючы такім няпоўным весткам беларускае грамадзянства Заходняй Беларусі не заўсёды можа сабе ўявіць, чаму нацыянальнае жыцьцё па той бок граніцы ня можа устабілізавацца і падлягае розным хістаньням, у выніку якіх тое, што ўчора лічылася патрэбным і абавязковым нават з пункту гледжаньня савецкіх уладаў, — сягоньня лічыцца шкодным і праступным.

Каб унікнуць глыбей у сутнасьць савецкай нацыянальнай палітыкі адносна беларусаў, неабходна зьвярнуцца да літэратуры, якую прадукуе камуністычная партыя і якую, можна сказаць, усіх грамадзян па той бок граніцы прымушаюць студыяваць.

Асноўным пунктам публічнага ўзгадаваньня і ўсьведамленьня савецкага грамадзяніна ёсьць гэтак званая палітграмата. Дзеля абзнаямленьня з ею выдаюцца адумысловыя падручнікі, з якіх першае месца займае „Азбука ленінізму“. Кніжка гэта, хоць названа скромна азбукай, займае каля 250 старонак і яшчэ ў мінулым годзе выйшла ў 3-ім беларускім выданьні. Апошні новаўведзены XII аддзел у ва ўспомненай кнізе мае назоў „Заданьні партыі ў галіне нацыянальнай палітыкі“. Вось-жа не прайшло шмат часу, як уся „Азбука ленінізму“ аказалася „папсаванай“ успомненым XII аддзелам, які па зьместу раптам аказаўся неправільным, бо ў нацыянальным пытаньні „перакручвае сапраўдную лінію партыі“, а таксама знайшоўся „рад памылковых цьвярджэньняў адносна пазыцыі партыі ў барацьбе з беларускім нацыянал-дэмакратызмам — галоўнай небясьпекай у справе правільнага правядзеньня нацыянальнай палітыкі ў даны пэрыод“.

Па даручэньню Агітпропу ЦК КП(б)Б нейкія Гаруновіч і Будзінскі пераапрацавалі і дапоўнілі разьдзел аб нацыянальнай палітыцы асобнай брашурай, дзе напісалі крытыку „памылак“, дапушчаных рэдактарам перакладу ў напісаным ім аддзеле. Такім чынам „Азбука ленінізму“ ня была сканфіскавана, але выйшаў на 52 старонках „дадатак“ да яе, які перакрэсьлівае даўнейшую партыйную лінію ў нацыянальным пытаньні і ставіць яе на новай плошчы. Трэба дабавіць, што гэты дадатак пад назовам „Нацыянальная палітыка камуністычнай партыі“, як відаць з надпісу на вокладцы, надрук. у 10.000 эгз. і празначаны для шырокага карыстаньня, як у школах, так для самаадукацыі, аб чым ёсьць заметка ў прадмове.

Калі ўзяць пад увагу, што новы курс нацыянальнай палітыкі ў савецкай Беларусі цесна зьвязаны з перасьледаваньнем беларускіх адраджэнцаў у Менску, то тыя „папраўкі“ партыйнай лініі набіраюць асаблівага значэньня, і ім перад усім мы павінны ўдзяліць месца ў нашых разважаньнях.

Рэдактару аддзелу аб нацыянальнай палітыцы, нейкаму Раманчуку, ставіцца закід, што ён „пытаньне беларускага шовінізму і нацыянал-дэмакратызму разглядае *нароўні* з праявамі жыдоўскага і польскага шовінізму“. Такое становішча паводле новага палітычнага курсу „замазвае нацыянал - опортуністычныя памылкі, зробленыя сябрамі нашай партыі“. Выходзіць так: калі нейкія паасобныя сябры камуністычнай партыі беларускай нацыянальнасьці скрывілі лінію кампартыі, то ня можна пытаньні аб нацыі беларускай раўняць з пытаньнямі нацыянальнымі іншых народаў, як напр. жыды і палякі. А знача ўсе небеларусы заслугоўваюць на пэўныя прывілеі, бо бач з іх ніхто не выяўляе ніякіх нацыянальных вымогаў. А калі паасобныя адзінкі Беларусы

Цеpазмернае багацьце золатам Амэрыкі — коштам іншых дзяржаваў — забівае яе гандаль, бо сьвет, ня маючы золата, ня можа купляць яе тавараў...

Вось нават у гэтай галіне, здавалася-б, чыста «камэрцыйнай канкурэнцыі", аказываецца, пануе таксама закон пэўнай «роўнасьці" ды «справядлівасьці»: перамога над канкурэнтам-працаўнікам ня можа ісьці ў нашыя часы, як даўней, да канца, — да поўнага аграбленьня, да пазбаўленьня жыцьця. Бо-ж канкурэнт-працаўнік павінен — ня толькі жыць і працаваць на пераможцу, але і — купляць у яго тавары.

Такім чынам «сьвяты гандаль» нашых часоў робіцца ўсё больш галоўным чыньнікам гуманнага ўзгадаваньня людзкасьці. Характэрна, што Амэрыка якраз і выступае ў нашы часы з прапаведзьдзю такога «лагоднага імпэрыялізму», ці — «біцьця ды жыveньня далярам»...

Цікаўна, што якраз з Амэрыкі ідзе тасаваньне такога-ж прынцыпу ня толькі ў міжнародных стасунках, але і ў клясавай барацьбе. Як ведама, Форд першы заявіў, што на работніка трэба глядзець — ня толькі як на «рабочую сілу», але і як на спажыўца-купца выраблянных ім-жа самім на фабрыках прамыслоўцаў тавараў. А таму трэба падтрымліваць добрай заработнай платай яго здольнасьць купляць гэтыя тавары. Форд першы зрабіў гэтую «рызыкоўную спробу», ня гледзячы на ўсе страшаньні з боку яго калегаў-прамыслоўцаў. Спроба ўдалася наславу: работнікі пачалі нават купляць фордавы самаходы, «ёмкасьць» унутранага рынку паглыбілася наагул ды агульны дабрабыт багатай і працавітай краіны падняўся яшчэ вышэй.

# У С. С. С. Р.

## Сэнсацыйныя весткі аб адстаўцы Сталіна.

Як ведама, савецкія фінансы стаяць перад новай катастрофай. У бліжэйшым часе СССР мусіць плаціць па заграНічных вэксалёх каля поўміліярда золатам, а грошаў няма, бо-ж француская пазыка не дайшла да скутку, а Нямеччына больш пазычаць ня можа. На пануючай «вярхушцы» у Крэмлі паніка вылілася ў абурэньне проці Сталіна, які зьяўляецца, як дыктатар, адказным за катастрофу. На сабраньні радавых фінансістаў у Крэмлі адбылася вострая дыскусія, у выніку якой спадзяюцца адстаўкі Сталіна. Канкурэнтам Сталіна зьяўляецца быццам Молатаў, старшыня Сов-Нар-Кому.

## Новы «буржуазны прарыў» на калгасным фроньце.

Не шанцуе бальшавіком нават з «калгасьнікамі», сярод якіх завяліся «буржуазна-кулацкія імкненьні» — нягорш, як у заядлых кулакоў. Справа ў тым, што цэлы рад «калгасаў» пастанавіў — з атрыманага ўраджаю першым чынам адлічаць колькасьць збожа, патрэбную для харчаваньня працаўнікоў калгасу і пракармленьня рабочай жывёлы, пасьля адлажыць запас, патрэбны на насеньне, а ўжо тое, што астанецца пасьля гэтага, аддаць на карысьць дзяржаўнага збажовага фонду. Гэткія пастановы выклікалі страшэнную буру, бо-ж гэты «астатак» на карысьць дзяржавы блізу ва ўсіх калгасах аказаўся вельмі малы: такім чынам гэтыя калгасы— «зрывалі кампанію хлеба-загатоўкі». Дык радавы ўрад зараз-жа выдаў дэкрэт, каб з ураджаю — наадварот — першым чынам адлічалася частка, належная «па развёрстцы» на карысьць дзяржавы, а рэшта ўжо дзялілася на патрэбы калгасу. А ня хопіць, дык... «далажыць галавой» калгасьнікаў... Працаваць, каб прынамся... быць сытым?— яўна «буржуазнае» жаданьне!

## Кароткія навіны.

— Маршалак Пілсудскі выехаў на даўжэйшы час у Румынію — на адпачынак ці на курацыю.

— Павадыр індускіх незалежнікаў Ганді пастанавіў кінуць працу на англійска-індускай канфэрэнцыі ў Лёндане, якая апрацоўвае «дамініальны статут» для Індыі, і ехаць дамоў. Гэта таму, што, як заявіў ён, ужо высьветліўся зусім выразна супольны фронт усіх англійскіх партыяў проці дамаганьняў індускіх незалежнікаў. Відаць, так падзеялі новыя выбары, якія абяцуюць аддаць уладу ў рукі кансэрватараў — праціўнікаў усялякіх «уступак» індусам — нават найбольш умеранай ахварбоўкі.

— Вялізарнае зацікаўленьне ў Эўропе выклікала падарожа Літвінава ў Турцыю, адкуль ён мае вярнуцца дамоў — у Маскву — праз Італію і Балканы.

— Памёр слаўны амэрыканскі вучоны-практык і вынаходца Эдысон, маючы звыш 80 год жыцьця. З імем нябошчыка зьвязана больш 3000 розных вынаходаў, паміж імі — электрычная лямпачка, грамафон, тэлефон і шмат іншых ня менш патрэбных вынаходаў.

— У Нямеччыне адбыўся ў Гарцбургу вялізарны зьезд гітлераўскіх баявых арганізацыяў, на які прыехалі сыны былага кайзэра, шмат генералаў імпэратарскай арміі і іншых правадыроў нямецкага нацыянальна-манархічнага руху. Каб паказаць сваю сілу, гітлераўцы пачалі рабіць «карацельныя экспэдыцыі» проці работнікаў-сацыялістаў. У выніку — рад запраўдных баёў— з дзесяткамі крывавых ахвяраў.

— 16 кастрычніка францускі прэм'ер Ляваль выехаў у Амэрыку на спатканьне з прэзыдэнтам Хувэрам. У гасьцінах Хувэра Ляваль прабудзе 3 дні, у часе якіх мае абгаварыць з ім рад найважнейшых спраў і мераў гаспадарчага аздараўленьня Эўропы. 22 Ляваль прыехаў у Амэрыку, дзе быў спатканы з вялікім захапленьнем. Адбыліся пышныя банкеты і пачаліся гутаркі паміж дыплёматамі.

— У Нямеччыне той-жа канцлер (прэм'ер) Брюнінг стварыў новы ўрад (крыху больш правы), які аднак-жа ізноў ня можа лічыцца парляманарным, бо-ж ня створаны сталай большасьцяй парляманту. Аднак, каб не дапусьціць да ўлады правую апазыцыю — нацыяналістаў і гітлераўцаў, якія страшэнна пруцца да ўлады, каб вярнуць манархію, скінуць адшкадаваньні і т.д.,— сацыял-дэмакраты ізноў падтрымалі ўрад, хаця ў склад яго не ўваходзяць. Такім чынам Нямеччына ізноў адратавана ад авантуры, якая пагражала-б, можа, новай вайной.

— У апошнюю нядзелю адбыліся ў Англіі агульныя выбары ў парлямант. Гэтыя выбары — нешта нячуванае ў Англіі, дзе ўжо некалькі сталецьцяў канкуравалі на выбарах толькі дзьве партыі. Цяпер у выбарах прымалі учасьце аж 7 розных партыяў і групаў. Перамаглі на выбарах кансэрватары.

— У Ірляндыі ўрад распачаў рашучую барацьбу з камуністамі, распусьціўшы аж 12 розных арганізацыяў, якія — пад рознымі назовамі— вялі камуністычную прапаганду.

# КАРЭСПАНДЭНЦЫІ

## Голас прыхаджаніна.

*(З Паставаў).*

У найпрыгажэйшым месцы Паставаў стаіць царква і пры ёй добры кусок зямлі. Гэтай зямлёй назначаны сюды з Вільні сьвяшч. Сурвіла пачаў гаспадарыць па-свойму: пааддаваў часткамі ў доўгатэрміновую арэнду прыватным асобам пад будову дамоў. Пратэсты прыхаджан ня мелі ніякае вагі, і дамы будуюцца так, што ўпіраюцца ў самую царкву. Астаўся яшчэ невялічкі кавалачак зямлі каля старожкі, на якім сяляне, прыяжджаючы ў царкву, затрымліваліся з фурманкамі. — Дык-жа прагавіты на грошы бацюшка і тую зьбіраецца аддаць у арэнду, пазбаўляючы сялян прыпынку.

Сьв. Сурвіла так пэўны ў сваей сіле перад кансісторыяй, дзе сідзяць падобныя да яго „айцы" Кушнёвы ды Марозавы, што зусім ні з кім ня лічыцца: моду здаваць зямлю ў арэнду на 35 гадоў ён пазнаў у Вільні, як быў сам сябрам Кансісторыі.

Але-ж — за ўсё, што нарабіў сьв. Сурвіла ў Паставах, трэба ня менш вінаваціць і Кансісторыю, якая пасьля ведамай скандальнай справы па абвіненьню сьв. Сурвілы ў вялюдзкіх хабарах, — замест звальненьня, назначыла яго благачынным (!) у места Паставы. Хіба-ж дзеля таго, што сьв. Сурвіла рабіў «благія чыны», ужо будучы сябрам Кансысторыі, за якія і папаў пад суд. Пастаўцы-ж, як і віленцы, добра ведаюць і памятаюць, што тады сьв. Сурвілу адратавала ад суду толькі падасьпеўшая на пару амністыя ды... вяроўка, на якой павесіўся (?) кумпан сьв. Сурвілы па гэтых «благіх чынах», ведамы Бакалінскі. На нябошчыка і ўзвалілі тады жывыя яго таварышы ўсю віну...

*Праваслаўны Ш.*

# ХРОНІКА

— **З Цэнтрасаюзу.** Прэзыдыум Цэнтральнага Саюзу Беларускіх Культурна-Асьветных і Гаспадарчых Арганізацыяў і Ўстаноў пастанавіў склікаць экстрэнны агульны сход Рады на 7 лістапада. На парадку дня, паміж іншым, пастаўлена пытаньне аб далейшым існаваньні Цэнтрасаюзу ў сувязі з утварыўшымся ў апошнія часы палажэньнем.

— **Агульны сход бацькоў Віл. Бел. Гімназіі** адбыўся 4 кастрычніка. На парадку дня стаяла гадавая справаздача прэзыдыуму і рэвізыйнае камісіі, плян працы на наступны год і выбары новага прэзыдыуму і рэвізыйнае камісіі.

У сваей справаздачы стары прэзыдыум адзначыў, што спыненьне польскімі ўладамі даванае ў мінулым школьным годзе грашовае дапамогі Гімназіі і зьмяншэньне лічбы этатаў з 7 да 3 паставіла Гімназію на парозе новага школьнага году ў нязвычайна цяжкое палажэньне. У выніку гэтага сёлета немагчыма будзе рабіць уступак з платы за навуку для беднаты, як было летась, або і зусім звальняць ад платы найбяднейшых вучняў. Вучыцялём плата за працу зьменшана з 9 да 6 зл. за тыднёвую гадзіну ў месяц, дык некаторыя будуць за сваю працу даставаць менш, чым дастае сторож.

Сход пастанавіў зьвярнуцца да грамадзянства ўсіх нацыянальнасьцяў з просьбай аб помач Гімназіі. Сход такжа пастанавіў зьвярнуцца да школьных уладаў з просьбай аб дапушчэньні ізноў да працы ў Гімназіі звольненых па загаду Куратарыуму вучыцялёў Гімназіі грам. Луцкевіча і Заморына.

Пасьля прыняцьця справаздачы прэзыдыуму і рэвізыйнае камісіі, а такжа зацьверджаньня пляну працы на 1931—32 школьны год сход перайшоў да выбараў новых кіраўнічых органаў Бацькаўскага Камітэту. Сход вялізарнай большасьцяй выбраў у склад новага прэзыдыуму і рэвіз. камісіі ўсіх тых асоб, якіх запрапанаваў стары прэзыдыум. Наадварот п. п. Акіньчыц і Янка Станкевіч, якія маніліся ўвайсьці ў прэзыдыум з мэтай «узрываньня» Гімназіі знутра,— праваліліся. Бацькі яўна адвярнуліся ад гэтых паноў, аж залішне ярка выявіўшых свае варожыя адносіны да беларускае гімназіі.

У новы прэзыдыум выбраны: Э. Будзька, С. Кароль, Пратасэвіч, Стракоўскі і Душкевіч; кандыдаты — Найдзюк і Сіняўскі. У рэвізыйную камісію — М. Ільяшэвіч, Стома і Падагель.

— **Канцэрт на карысьць незаможных вучняў Віл. Бел. Гімназіі.** 14 лістапада ладзіцца ў салі Гімназіі (Вострабрамская 9) вялікі і вельмі цікаўны канцэрт, з якога ўвесь даход пойдзе на аплату за навуку найбяднейшых вучняў. У праграме канцэрту — выступленьні хору і солё, ігра на скрыпцы і дэклямацыя.

— **У Вучыцельскай Сэмінарыі ім. Фр. Багушэвіча** адбыўся 25 кастрычніка «суботнік». Вучні паставілі дзьве п'ескі: «Калёшы» Фрэдры і «Чорт і баба» ў апрацоўцы Аляхновіча; пасьля спэктаклю была дэклямацыя беларускіх паэтыцкіх твораў.

— **„Новая Варта".** Пад такім назовам нядаўна закладзеная беларуская студэнцкая карпарацыя «Скарынія» будзе выпускаць сваю часопісь. Першы нумар хутка мае выйсьці ў сьвет.

— **Ізноў — аб „полёнофілах".** «Белар. Крыніца» — у заметцы «Папраўка» (у № 32) — ізноў і ізноў зьмяшчае бяссумленна гр. гр. Луцкевіча і Астроўскага ў адну кумпанію «лёкайскіх полёнафілаў» — побач з п. п. Аляксюком, Паўлюкевічам, Умястоўскім і Акіньчыцам...

Але — не да ўсіх «полёнафілаў» срогі маральны орган нашай «хрысьціянскай дэмакратыі» аднолькава грозны. — Характэрна, што сярод пералічаных ім «полёнофілаў» далікатна ня зьмешчаны хіба-ж найбольш «яркі» з іх — п. Валэйша, які ўзноў — няведама ўжо, каторы раз— сядзіць за кратамі — за розныя «фінансавыя апэрацыі» у чужых кішанёх, аб чым ведама хіба ўжо нават вераб'ям на віленскіх стрэхах. Дык вось гэтага «сланя» у нашым „полёнофільскім" зьвярынцы і ня прыкмеціла „цікавая" „Крыніца"!

Гэткая „далікатнасьць" тлумачыцца, можа, тым, што ў гэтага самага п. Валэйшы яго кум, блізкі аднача сна і да рэдакцыі «Крыніцы», пасол Ярэміч пазычыў нядаўна — „у добрай веры" — як толькі што сцьвердзіў публічна сам п. пракурор Віленск. Акружн. Суду, — значную суму грошаў у далярах... Пазычыў, на няшчасьце, акурат у тым самым часе, калі п. Валэйша зрабіў чарговую „даляровую апэрацыю" у Віл. Комунальным Банку, атрымаўшы адтуль — па падробленаму дакумэнту—5.000 даляраў... Пэўне-ж— гэта — прыпадак, гэтая пазыка! Хаця, праўду сказаць, прыпадак — вельмі і вельмі сумны, проста, можна сказаць, жудасны для апініі — адзінага! — беларускага пасла, дый наагул для ўсей беларускай справы ў Польшчы... Але з гэтага прыпадку — ясна, каго лучаць, калі не палітычныя, дык асабістыя стасункі шчырага даверыя кума да кума, ці „добрай веры", як кажа п. пракурор, — з «найспрытнейшым» спаміж нашых „полёнофілаў"... Пэўне-ж — не гр. гр. Астроўскага ці Луцкевіча, якіх, як ведама, усе нашыя „полёнофілы" — як лаялі, так і лаюць (поруч з „Белар. Крыніцай")... „jak najęci", як кажа ведамая польская прыказка.

— **Падручнік псыхолёгіі пабеларуску.** Выйшаў з друку і ў найбліжэйшых днёх зьявіцца ў прадажы „Кароткі нарыс псыхолёгіі", напісаны вуч. Віл. Белар. Гімназіі д-рам Мік. Ільяшэвічам. Кніжка мае дадатак беларуска-расейска-польскіх псыхолёгічных тэрмінаў і ільлюстрацыі ў тэксьце.

Цана толькі 1 злоты.

Выпісываць і купляць можна ў „Беларускай Кнігарні" Wilno, ul. Ostrobramska № 1 і ва ўсіх віленскіх беларускіх кнігарнях.

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯЎСКІ.

Друкарня А. ДВОРЖЭЦА. Вільня, Завальная вул. № 32.